

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***

# НАША СЛОВА.pdf



**Першы год выдання** **№ 10 9 сакавіка 2022 г.**

# Са святам вясны, дарагія беларусачкі!




## З 8 сакавіка

Чароўны вечар.
Водар кветак.
Блакітных зорак сонны шэпт.
І свяціць ціха сівы месяц
Скрозь верхаліны старых дрэў.

Павіншаваць цябе хачу я
Ў гэта вечар веснавы
Кахання, радасці, запалу
Адчуць жадаю ў жыцці!

Жадаю, каб твая ўсмешка,
Як сонцаззяла назаўжды,
Каб полымем гарэлі вочы,
Жыцця яскравага агні!

Вясна прыходзіць.
Спевы птушак,
Пачатак новага жыцця.
Віншую я цябе са святам,
Любоў нязгасная мая.

***Мікіта Прыходзька.***

# Казюкі ў Гародні

*Свята рамеснікаў традыцыйна праходзіць у першыя вясновыя дні. Сёлета больш за сотню майстроў народных промыслаў прадставілі свае вырабы з самых розных матэрыялаў. Ганаровае месца на кірмашы заняла разьба па дрэве. Менавіта гэтаму віду рамяства была прысвечана цырымонія пасвячэння маладога майстра ў гільдыю рамеснікаў.*



Як вызначылі арганізатары свята, з гэтага года кожны кірмаш будзе мець свой кірунак. Напрыклад, сёлета пад увагай вырабы з драўніны, у наступным годзе можа быць саломка ці кераміка. Адпаведна ім будуць праходзіць абрады пасвячэння ў майстры. Такі фармат ладзіўся ўпершыню.

А самому кірмашу "Казюкі" ў Гародні больш за 20 гадоў. Як падкрэсліў начальнік аддзела ідэалагічнай работы і па справах моладзі Гарадзенскага гарвыканкама Аляксандр Каваленка, свята мае асаблівае значэнне, бо аб'ядноўвае ўсіх, хто захоўвае і працягвае старажытныя рамёствы. Ён зазначыў, што сёлета на кірмаш прыехала больш за сто рамеснікаў.

Трэба сказаць, што само свята праводзіцца ў гонар ахоўніка рамеснікаў Святога Казіміра, прадстаўніка дынастыі Ягелонаў, які жыў яшчэ ў XV стагоддзі. Ён памёр маладым 4 сакавіка ва ўзросце 25 год у Гародні. Кананізаваны праз два стагоддзі. З тае пары з'яўляецца ахоўнікам моладзі і рамеснікаў, а ў яго гонар пачалі праводзіцца кірмашы. У Гародні традыцыя адноўлена больш за 20 гадоў таму і лічыцца пачаткам новага сезону кірмашоў. Лічылася, як пройдзе першы дзень гандлю, такім будзе і ўвесь год.



***Маргарыта Ушкевіч.***
*Фота аўтара*

# Водгулле Міжнароднага дня роднай мовы

## *Наваградчына да Дня роднай мовы*

### Інтэлектуальна-забаўляльны квіз "Лёгкая мова"

16 і 17 лютага Наваградская раённая бібліятэка ладзіла інтэлектуальна-забаўляльны квіз "Лёгкая мова", прысвечаны Міжнароднаму дню роднай мовы, для навучэнцаў аграрнага і гандлёва-эканамічнага каледжаў. Бібліятэкары расказалі пра гісторыю свята, прадставілі шэраг цікавых фактаў пра нашу родную мову і парэкамендавалі творы беларускай літаратуры.









Юнакі і дзяўчаты адгадвалі зашыфраваныя беларускія словы ў заданні "Перыфразы", шукалі "гарэзлівыя літары" ў беларускіх прымаўках у заданні "Залацінкі народнай мудрасці", каб надаць ім першапачатковы сэнс, даведваліся пра новыя беларускія словы, гулялі ў беларускамоўныя асацыяцыі. Самыя актыўныя і эрудзіраваныя навучэнцы атрымалі падарункі.

### Свята роднай мовы "Разам гуляем, па-беларуску размаўляем” у Харосіцкай сельскай бібліятэцы

17 лютага бібліятэкар Харосіцкай сельскай бібліятэкі разам з загадчыкам Харосіцкага СДК у чарговы раз наведалі Нягневіцкі яслі-сад. Для дзяцей старэйшай групы ў "беларускім кутку", які створаны ў садку, правялі свята роднай мовы "Разам гуляем, па-беларуску размаўляем". Бібліятэкар падрыхтавала маляўнічую кніжную выставу "Родная мова". Дзеці з ахвотай прынялі ўдзел у конкурсе "Як гэта называецца" (па-беларуску), адгадвалі





загадкі, танцавалі беларускі народны танец "Грушка", спявалі беларускія песні. У групе дзеці з задавальненнем паслухалі апавяданне Алены Белка "Самы смачны яблык".

## Беларуская дыктоўка "Мова Янкі Купалы - родная мова"

Міжнародны дзень роднай мовы - свята, заснаванае рашэннем 30-й сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА ў лістападзе 1999 года і якое з 2000 года штогод адзначаецца 21 лютага. Галоўная мэта свята - захаванне моўнай і культурнай разнастайнасці ў свеце, падтрымка нацыянальных моў і культур, а таксама забеспячэнне права кожнага грамадзяніна карыстацца роднай мовай.






Да Міжнароднага дня роднай мовы бібліятэкары і спецыялісты Навагрудскай раённай бібліятэкі прынялі ўдзел у напісанні беларускай дыктоўкі "Мова Янкі Купалы - родная мова" і праверылі такім чынам сваё веданне беларускай мовы. Для дыктанта была абрана нататка Янкі Купалы пад назвай "Вечна жывая паэзія". Выбар тэкста быў невыпадковы. Сёлета Беларусь адзначыць 140 гадоў з дня нараджэння народнага паэта Янкі Купалы, а абраная нататка была прысвечаная генію з Навагрудчыны Адаму Міцкевічу.

## Як атрымаць часцінку дабрыні і любові да роднай мовы

Святкаванне Міжнароднага дня роднай мовы ўжо стала добрай традыцыяй Любчанскай інтэграванай гарпасялковай бібліятэкі. Сёлета 21 лютага для вучняў сярэдніх класаў тут была праведзена гульня-конкурс "Ведай і любі родную мову". Паміж сабой змагаліся дзве каманды - "Васількі" і "Каласкі", яны папрактыкаваліся ў самых розных і па-сапраўднаму цікавых конкурсах. У прыватнасці, у конкурсе "Самы кемлівы" дзеці выконвалі заданне на картках, дзе неабходна было замяніць фразеалагізмы адным словам.

У конкурсе "З народнай мудрасці" каманды збіралі рассыпаныя прыказкі. Аднак, на думку ўдзельнікаў мерапрыемства, самым цікавым быў конкурс "Сваякі", у ходзе якога каманды разблытвалі сямейны клубок, дзе трэба было зразумець "хто ёсць хто". А яшчэ дзецям прапаноўвалі ўрыўкі з тэкстаў беларускіх пісьменнікаў, а ўдзельнікі конкурса па чарзе называлі твор і аўтара.







Непадробную цікавасць у дзяцей выклікала кніжная выстава "Роднаму слову гучаць вечна". Мера-прыемства атрымалася добрым і, напэўна, ва ўсіх яно пакінула часцінку дабрыні і любові да роднай мовы.

## "Чытаем аб Радзіме" да Дня роднай мовы






Чарговы выпуск сумеснага праекту "Чытаем аб Радзіме", прысвечаны Дню роднай мовы, які адзначаецца 21 лютага, адбыўся ў Наваградскай СШ № 4. Кнігі на беларускай мове і пра беларускую мову прадстаўляюць вучні гэтай сярэдняй школы.

## Віншаванка "Свята роднай мовы"

21 лютага ў Міжнародны дзень роднай мовы Наваградская раённая бібліятэка для чытачоў аддаленых вёсак, якія абслугоўваюцца бібліобусам, падрыхтавала









віншаванку "Свята роднай мовы".

Улёткі з цікавымі фактамі пра беларускую мову і творы беларускіх аўтараў прыйшліся даспадобы нашым чытачам.

***Паводле СМІ.***

# Водгулле Міжнароднага дня роднай мовы

## *Дзень роднай мовы на Шчучыншчыне*

### "Мова родная - мова жывучая"

20 лютага ў Тур'янскай сельскай бібліятэцы прайшла літаратурная хвілінка "Мова родная - мова жывучая", прымеркаваная да Міжнароднага дня роднай мовы. Бібліятэкар расказала пра гісторыю ўзнікнення свята, вучні пазнаёміліся з вясёлымі вершамі, казкамі, лічылкамі беларускіх пісьменнікаў, з народнымі прыказкамі і прымаўкамі.

Далей дзеці актыўна адказвалі на пытанні віктарыны "Скарбы роднай мовы", успаміналі гістарычныя імёны і даты, замянялі





іншамоўныя словы адпаведнымі беларускімі, тлумачылі значэнне стараславянскіх слоў. Да мерапрыемства была аформлена кніжная выстава "Жывое беларускае слова", дзе дзеці пазнаёміліся з серыяй кніг "Таямніцы беларускай мовы".

### "І прыгожа льецца па прасторы слова беларускай мовы"



21 лютага ў Шчучынскай дзіцячай бібліятэцы да Міжнароднага дня роднай мовы прайшло пасяджэнне аматарскага аб'яднання "І прыгожа льецца па прасторы слова беларускай мовы".

Супрацоўнікі віталі сваіх гасцей на роднай мове, удзельнікі ўзгадвалі, якія яшчэ ёсць ветлівыя словы ў нашай мове. Падчас мерапрыемства разам чыталі небыліцы, дзівосы, адгадвалі загадкі, слухалі жарты, знаёміліся з беларускімі гульнямі, прыказкамі, прымаўкамі, працавалі перакладчыкамі. Вельмі парадавала, што дзеці былі зацікаўлены дзіцячымі кнігамі, уважліва слухалі апавяданні В. Хомчанкі "Яблык" і І. Муравейкі "Яблыкі для сястрычкі", беларускія казкі. Пазнаёміліся з цікавымі з'явамі прыроды і незвычайнымі прыгодамі зверанят.

### "Праз смугу стагоддзяў дайшло да нас слова"

Дзень роднай мовы асаблівы для кожнай нацыі, кожнага народа, бо няма народа без мовы, няма мовы без яго носьбіта. "Праз смугу стагоддзяў дайшло да нас





слова" - пад такой назвай 21 лютага была прадстаўлена кніжная выстава-агляд у ам. Руткевічы.

Бібліятэкар бібліёбуса прапанавала кнігі чытачам, якія бачаць асалоду ў чытанні на роднай беларускай мове. Мова - жывая тканіна, прырастае там, дзе крынічыць людское жаданне.

### Фальклорная вандроўка "Казкі роднага краю"

22 лютага да Міжнароднага дня роднай мовы ў інтэграванай бібліятэцы аграмястэчка Дэмбрава прайшла фальклорная вандроўка "Казкі роднага краю". Падчас мерапрыемствы дзеці падарожнічалі па станцыях "Прыказкі і прымаўкі", "Загадкі", "Прыметы", "Казкі" і "Хуткамоўкі".





На кожнай стаянцы іх чакалі розныя заданні. Трэба было адрозніць прыказку ад прымаўкі, адгадаць загадкі, назваць, якія яны ведаюць прыметы, пералічыць пабольш назваў беларускіх казак, навучыцца гаварыць хуткамоўкі. Мерапрыемства прайшло весела і ажыўлена.

*Паводле СМІ.*

# Урок краязнаўства ў першых класах

Пісьменнік Сяргей Чыгрын са Слоніма правёў урок беларускага краязнаўства сярод першакласнікаў Слонімскай сярэдняй школы № 7. Госць не толькі ў даступнай цікавай гутарцы распавёў пра гістарычныя мясціны Слонімшчыны, а таксама задаваў пытанні першакласнікам і пытаўся ў іх пра помнікі горада, у якім яны жывуць, пра рэкі, якія працякаюць па тэрыторыі раёна, пра вядомых людзей, пра тое, што яны ведаюць пра свой родны край, і г.д. І дзеткі адказвалі, разважалі, пыталіся ў госця тое, што іх цікавіць.







Падчас урока Сяргей Чыгрын прэзентаваў сваю новую кнігу паданняў і легендаў "Камень-бацька і камень-сын". Пісьменнік распавёў некалькі цікавых паданняў, а дзеці таксама расказалі свае паданні, якія яны ведаюць. Пасля сустрэчы ўсе сфатаграфаваліся на памяць і запрасілі Сяргея Мікалаевіча часцей праводзіць падобныя ўрокі краязнаўства ў школе.

*Наш кар.*





# Водгулле Міжнароднага дня роднай мовы

## *Дзень роднай мовы на Капыльшчыне*

Міжнародны дзень роднай мовы заснаваны ў 1999 годзе рашэннем Генеральнай сесіі ЮНЕСКА і штогод





адзначаецца 21 лю-тага. Галоўная яго мэта - захаванне моўнай і культурнай разнастайнасці ў свеце, падтрыманне нацыянальных моў і культур, а таксама забеспячэнне права кожнага грамадзяніна карыстацца роднай мовай.

Міжнародны дзень роднай мовы ў Капыльскай раённай цэнтральнай бібліятэцы імя Анатоля Астрэйкі адзначылі дыктоўкай. Удзельнікамі дыктоўкі сталі навучэнцы Капыльскай дзіцячай школы мастацтваў. Перад пачаткам




дыктоўкі быў праведзены бліц-пераклад з рускай мовы на беларускую і наадварот. У якасці тэкста для дыктоўкі быў абраны ўрывак з рамана пісьменніка-земляка "Сокі цаліны". Удзельнікі дыктоўкі пазнаёміліся з выставай "Родная мова - крыніца празрыстая…" .

23 лютага Слабодакучынская бібліятэка-клуб Капыльскага раёна сумесна з вучнямі і настаўнікамі





Слабодакучынскай сярэдняй школы правялі ўрок ведаў "Мова маіх продкаў угаснуць не можа".

***Паводле СМІ.***

# Водгулле Міжнароднага дня роднай мовы

## *Свята роднай мовы ў Лідскім каледжы*

21 лютага ва ўсіх краінах свету адзначаецца Дзень роднай мовы. Для беларусаў роднай мовай з'яўляецца беларуская.

Установа адукацыі "Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" арганізавала Гарадзенскую купалаўскую дыктоўку "Знайдзі сябе з намі".

Гэтае мерапрыемства падрыхтавана з нагоды трох святаў: у рамках Дня роднай мовы, да 140-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і да 82-годдзя стварэння нашага ўніверсітэта.

Тэкст дыктоўкі быў сімвалічным - верш Янкі Купалы "Спадчына". Дыктоўка праходзіла ў фармаце ZOOM.








У рамках Дня роднай мовы 22 лютага на кураторскай гадзіне ў групе 101 па 1 курса адбылася сустрэча з лідскім бардам Сержуком Чарняком.



На сустрэчы навучэнцы пазнаёміліся з творчасцю нашага земляка і атрымалі асалоду ад шчырых слоў і лірычных песень, якія гучалі на нашай роднай беларускай мове.

***Наш кар.***






# РОДНАЯ МОВА - НАША ПАМЯЦЬ

*Слова наша роднае, хапала*
*На стагоддзі доўгія цябе.*
*Багдановіч, Колас і Купала*
*Прыпадалі да цябе ў журбе.*
***Генадзь Бураўкін.***

Мова народа захоўвае самую поўную і самую глыбокую памяць.

Менавіта праз мову - пісьмовыя помнікі, летапісы, разнастайныя архіўныя дакументы - дайшлі да нас, выяўляюцца яшчэ да гэтай пары дакладныя і аб'ектыўныя звесткі з розных часоў, далёкіх і не вельмі. А праз вусныя ўспаміны старажылаў вяртаецца ці ўдакладняецца памяць бліжэйшага часу. Таму слушна назваць вусную і пісьмовую мову асноўным інструментам, рэтранслятарам і захавальнікам памяці.

Адно кароткае слоўка ці славазлучэнне можа падаць цэлы пласт нашай гісторыі, культуры і веры, народнага майстэрства. *Яцвягі, судавы, зніч, касінер, гальштукі Мураўёва, капліца, слуцкія паясы, заходнікі, партызанскі лагер, выцінанка, талака, балея, маляваныя дываны, скудзельніца*... Прыгадайце іх значэнні ці даведайцеся, калі не выпала ведаць, - і перад вамі расчыніцца акно ў мінуўшчыну, годную, слаўную, таленавітую, гераічную, а то і трагічную.

А колькі пракаветнага тоіцьзберагае ў сабе кожны родны тапонім! Мовай зямлі назваў мясцовыя найменні даследчык-тапаніміст Вадзім Жучкевіч, а Леанід Лыч яшчэ дакладней - эфектыўным сродкам захавання гістарычнай і духоўнай спадчыны. Так, у нас, на Нясвіжчыне, урочышча непадалёк ад Сейлавіч займела назву ***Касцянева***, бо спачываюць там бясслаўныя парэшткі няпрошаных валацуг-заваёўнікаў. Вёска ***Карцэвічы*** захоўвае ў саёй назве даўнюю легенду аб працавітых першапасяленцах, што здолелі выкарчаваць лес, каб ператварыць яго ва ўрадлівы палетак. Вёска ***Арда*** на памежжы Нясвіжчыны і Клеччыны трымае памяць пра тых татараў, што прыйшлі сюды не з лукамі і стрэламі, а каб мірна жыць і працаваць на гэтай божай зямлі; асвоілі яны і тутэйшую мову, адно што запісвалі нашы словы сваёй прывычнай арабскай вяззю. А ёсць жа яшчэ на Нясвіжчыне і непадалёк ***Кунаса*** і ***Баяры, Гірыч Поль*** і ***Гавязна, Ванжовец*** і ***Грыдзева, Ракашыца*** і ***Дунай*** як даўнія адгалоскі шматлікіх падзей на вятрах гісторыі, разнастайных стасункаў беларусаў з іншымі народамі.

А шматвяковая народная творчасць, найперш песні! Іх вобразыпаралелізмы найвышэйшага гатунку, што па сваёй метафарычнай напоўненасці пад сілу не кожнаму наваможнаму паэту з акадэмічнай адукацыяй.

*Цераз рэчаньку, цераз быструю*
*Я не пераскочу.*
*Аддайце мяне, мая мамачка,*
*За каго я хочу.*

За сямейна-пабытовымі, здавалася б простымі абразкамі даўнейшага жыцця - памяць сэрца, водгулле жаночых лёсаў не аднаго пакалення, трымценне тысяч тонкіх струн беларускай душы (фота "Жыццё як песня": Наталля Пятроўна Вініцкая і колішняя ўдзельніцы Малеўскага фальклорнага гурта).



Год гістарычнай памяці, год юбілеяў Купалы і Коласа павінен стаць для нас яшчэ і годам вяртання сваёй мовы, роднай мовы - найлепшага леку ад нацыянальнага бяспамяцтва і найважнейшага духоўнага складніку незалежнасці краіны.

***Наталля Плакса.***
***Нясвіж.***

# Водгулле Міжнароднага дня роднай мовы

## *Свята роднай мовы на Мастоўшчыне*

### З любоўю да роднай мовы

19 лютага філіял "Мілевіцкая сельская бібліятэка" правёў конкурс знаўцаў "З любоўю да роднай мовы", прымеркаваны да Міжнароднага дня роднай мовы. Вучні пачатковых класаў ДУА "Мілевіцкі навучальна-педагагічны комплекс дзіцячы сад - сярэдняя школа" даведаліся гісторыю ўзнікнення свята, прачыталі вершы беларускіх паэтаў В. Дубоўкі, Я. Коласа, Я. Купалы, актыўна ўдзельнічалі ў конкурсе загадак, прыказак і прымавак, адгадвалі назвы казак.



### Гучы, мая родная мова

20 лютага ў філіяле "Мікелеўшчынская сельская бібліятэка" адбылася гадзіна паэзіі "Гучы, мая родная мова". Гучалі вершы беларускіх паэтаў аб родным слове, матчынай, беларускай мове. Бібліятэкар Кулікоўская Тамара Уладзіміаўна ва ўступным слове паведаміла пра мілагучнасць, прыгажосць беларускай мовы. Юныя ўдзельнікі мерапрыемства чыталі вершы народных паэтаў Беларусі Якуба Коласа, Янкі Купалы, Уладзіміра Караткевіча, Пімена Панчанкі, Максіма Танка, Ніла Гілевіча пра родную мову.



### Як званочак звініць наша родная мова

20 лютага філіял "Зарудаўеўская сельская бібліятэка" запрасіў юных чытачоў на гадзіну роднай мовы"Як званочак звініць наша родная мова". Дзеці пазнаёміліся з гісторыяй узнікнення і станаўлення нацыянальнай мовы беларусаў. Даведаліся, што беларуская мова па розных ацэнках налічвае ад 250-500 тысяч слоў. Бібліятэкар Рахунок Марыя Уладзіміраўна паведаміла дзецям, што ў Полацку стаіць помнік літары "Ў", які з'яўляецца скульптурным увасабленнем беларускай мовы. Хлопчыкі і дзяўчынкі чыталі вершы Ніла Гілевіча "Родная мова", Навума Гальпяровіча "Захавай маю мову", Алеся Разанава "Мова" і інш. Адказвалі на пытані віктарыны, падбіралі словы, словазлучэнні, якімі можна апісаць нашу мову.



### Не пакідайце мовы роднай…

Да Міжнароднага дня роднай мовы ў філіяле "Гудзевіцкая сельская бібліятэка" для вучняу 3 класа ДУА "Гудзевіцкая сярэдняя школа" прайшла віктарына "Не пакідайце мовы роднай…". Бібліятэкар Пронька Валянціна Уладзіміраўна правяла кароткі экскурс у гісторыю свята - Міжнароднага дня роднай мовы. Пазнаёміла дзяцей з кнігай беларускага паэта Мікалая Іваноўскага "Загадкі на ўсе выпадкі". Вучні з задавальненнем адгадвалі загадкі з гэтай кнігі. Потым бібліятэкар прапанавала перакласці рускія словы або словазлучэнні на родную мову. Маленькая вучні чыталі вершы на беларускай мове. Мерапрыемства натхніла дзяцей таксама на чытанне кніг



на роднай мове. У бібліятэцы яны з задавальненнем і цікавасцю выбралі кнігі для самастойнага чытання.

### Родная мова, чароўны радок





21 лютага ў Міжнародны дзень роднай мовы супрацоўнікі ДУК "Мастоўская раённая бібліятэка" разам з кіраўніцтвам сектара культуры Мастоўскага райвыканкама, работнікамі ўстаноў культуры г. Масты з задавальненнем прынялі ўдзел у 15-й Агульнанацыянальнай дыктоўцы. Для дыктоўкі быў выбраны твор Я. Коласа "Разліў Нёмана". Дзейнічала кніжная выстава "Які ж гэта цуд - слова, мова твая!".

### Любі, ведай, шануй роднае слова!

Да Міжнароднага дня роднай мовы ў філіяле "Правамастоўская сельская бібліятэка" для вучняў 5-7 класаў ДУА "Правамастоўская сярэдняя школа" прайшоў краязнаўчы ўрок "Любі, ведай, шануй роднае слова!". Мерапрыемства праходзіла з мэтай выхавання любові да роднай мовы, цікавасці да моўнага багацця беларускага



народа. Бібліятэкар Мякека Галіна Вацлаваўна расказала гісторыю свята - Міжнароднага дня роднай мовы. Вучні чыталі вершы народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча, падбіралі да рускіх слоў беларускія адпаведнікі, удзельнічалі ў конкурсах "Пазнай твор па яго пачатку", "Аматары беларускага фальклору". У канцы ўрока бібліятэкар пажадала дзецям любіць сваю мову, вывучаць і валодаць ей свабодна.

*Паводле СМІ.*

## У Дзятлаве прэзентавалі кнігу мясцовага краязнаўца

У Дзятлаве адбылася прэзентацыя кнігі Валерыя Петрыкевіча "Там, дзе цячэ Маўчадка", якая выйшла з друку ў гарадзенскім выдавецтве "ЮрСаПрынт".





Гэта першая краязнаўчая кніга дзятлаўскага культурна-грамадскага актывіста, які ў апошнія 10 гадоў шмат зрабіў і робіць для роднай Дзятлаўшчыны па ўшанаванні сваіх знакамітых землякоў. Мерапрыемства распачала дзятлаўская паэтка і краязнавец Алена Абрамчык, якая прысутным расказала пра жыццёвы і творчы шлях Валерыя Міхайлавіча, пра тыя добрыя справы і клопаты, якія ён ажыццяўляе на сваёй зямлі. Павіншаваць земляка з выхадам першай даследчай кнігі прыйшлі яго сябры, сваякі і былыя вучні. Добрыя словы ў адрас Валерыя Петрыкевіча сказалі краязнавец Фёдар Красюк, сябра з Наваельні Уладзімір Рудзеў, былы педагог Раіса Лакіза і многія іншыя. Са Слоніма прыехалі на прэзентацыю пісьменнікі Сяргей Чыгрын і Мікола Кананові. Падчас мерапрыемства Валерый Петрыкевіч падараваў усім прысутным сваю кнігу з аўтографам. А прысутныя ў сваю чаргу пажадалі Валерыю Міхайлавічу здароўя і новых кніг.

*Альжбета Бельская.*

*Наталля Тананушка*

# Водар татавай хаты

Чым пахне родны бацькоўскі кут, татава хата? У памяці кожнага з нас ёсць свой успамін, свае кропелькі пахаў, з якіх ствараецца гэты водар.

Галоўнае не тое, што гэта за водар - галоўнае, што нідзе і ніколі ні на хвіліну ён не пакідае цябе, праследуе і атуляе ўсюды. І якіх дзівосаў гэтага шматлікага, неабсяжнага свету не краналі б твае ступні, якія б акіяны, з іх празрыстай ласкавай вадой не абмывалі іх, змыць гэты водар не магчыма ніколі.

Кажуць ёсць людзі-дрэвы і людзі-птушкі. Першыя, як векавы дуб, сваім коранем прарастаюць глыбока ў зямлю і чэрпаюць сваю моц і жыццёвыя сілы з яе нетраў. І калі часам моцны вецер выкарчуе велізарны корань з зямлі, перасаджваць не мае сэнсу: дрэва губляе жыццё. Можна канешне з яго зрабіць шыкоўны дубовы стол ці іншую мэблю, паставіць у прыгожы пакой, скажам, у шыкоўнай французскай кватэры - гэта будзе ўжо мёртвая бяздушная драўніна, без шолаху лісця і вечнага веснавога аднаўлення жыццёвага цыклу.

Іншыя, людзі-птушкі, імкнуцца кожны раз у вырай, туды, дзе пяшчота лагоднага сонца і цеплыня яго праменняў ахутае іх і дае іншае жыццё. І не трэба ім ні водару бацькоўскага гнязда, ні цеплыні роднай прасторы, ні прыгажосці куточка, дзе нарадзіліся і ператварыліся ў вольных, моцных птахаў.

… Я, безумоўна - чалавек-дрэва …

Які ж водар маёй бацькоўскай, татавай хаты? Ён застаўся ў маім сэрцы і ў маёй памяці і пяшчотным болем адгукаецца ва ўспамінах. Водар гэты шматузроўневы і шматгранны.

**Найперш гэта - водар яблыка антонаўкі.** Ён мае свой асабісты пах і такую непаўторную форму, якая дазваляе нават навобмацак адрозніць яго ад любога іншага яблыка. Я і зараз, заплюшчыўшы вочы, адчуваю яго непаўторны водар і не зблытаю ні з якім іншым.

Восень. Верасень. Баба Маня, татава маці, збірала ўсіх сваіх унукаў - маіх стрыечных братоў (усіх іх збіралася пяцёра ці шасцёра) у вёсцы на збор яблыкаў. І ніхто з іх не мог асабіста сабе пакласці ў торбу хоць адзін зняты яблык - усе іх збіралі у вялікія новыя кошыкі на продаж ці на зіму. А ў нядзелю баба Маня апранала новую, пажадана белую з дробненькімі сінімі кветачкамі хусту, ставіла кошыкі з найлепшымі яблыкамі на воз і дзед адвозіў яе на рынак у Ліду для гандлю. Астатнія ж накрывала якімі-небудзь старымі коўдрамі, "каб мышы не пад'елі", і узімку ўжо выдавала ўнукам, якіх не страшыла зімовая сцюжа і таму яны часам наведвалі бабу з дзедам. Прыедзеш у вёску, адкрыеш засаўку ў "тую хату" (так называлі вялікі пакой, дзе зімою ніхто не жыў, бо печ яго чамусьці не абагравала), і адчуеш марознае паветра, перапоўненае непаўторным водарам антонаўскіх яблыкаў.

І калі зараз стаіш пад раскідзістымі галінамі антонаўкі, а лёгкі восеньскі ветравей з яшчэ вераснёўскім цёплым подыхам пяшчотна блытае твае валасы, ці калі залезеш на тоўстую галіну дрэва, сарвеш яблык-антонаўку і прытуліш яго да твару - вось тады пачуеш і ўдыхнеш у сябе той самы сапраўдны водар, які застаўся з табою на ўсе жыццё…



*Наталля Тананушка нарадзілася з 1981 г. у г. Лідзе. Адукацыю атрымала ў Лідскай гімназіі, аддзяленні правазнаўства Менскага дзяржаўнага гандлёвага каледжа (юрысконсульт) і на аддзяленні алігафрэнапедагогікі і лагапедыі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка (настаўнік-дэфектолаг), зараз лагапед-дэфектолаг вышэйшай катэгорыіі ў адным з дзіцячых садкоў г. Ліды. Мае дарослага сына. З'яўлялася адным з арганізатараў і вядоўцай курсаў Мова Нанова ў Лідзе. Раней друкавалася ў "Нашым слове" і "Лідскай газеце".*

**Водар ліпавага мёду.** Лета. Раніца. Адчыняеш перакошаныя ад старасці дзверы, праз шчыліны якіх лагодна песціць твар і не дазваляюць вачам адкрыцца насустрач раніцы, сонечныя цёплыя праменні - ты выходзіш на ганак, сядаеш на цёплыя прыступкі і зноў заплюшчваеш вочы. І гэтак сустракаеш пяшчоту кожнай летняй сонечнай раніцы. Напрыканцы сядзібы, дзе некалі стаяла дзедава гумно, якое пасля вайны, пры саветах разрабавалі і забралі ў калгас, раслі магутныя ліпавыя прысады. Менавіта адтуль, з-за дрэў і ўзыходзіла сонца. Кожная ліпа, нібыта волат, абдымала сваімі галінамі суседнюю, спляталася з ёю і ўтварала тым самым магутны плот, які, як мне тады здавалася, бараніў падворак летам, восенню і вясной ад ветру, а ўзімку - ад снегавею. Колькі памятаю сваё дзяцінства, побач з гэтымі ліпамі стаяла сорак вулляў лясгасаўскіх пчол, якія дазволіў дзед Вінцук паставіць. Не было такога лета, каб хоць адна з іх мяне ды не ўджаліла!

Некалькі разоў на год супрацоўнікі лясгасу прыязджалі выбіраць мёд. І тады ў той дзень тата прыносіў мне вялізную белую міску з кавалкамі ліпавага мёду ў сотах, водар якога яшчэ доўга будзе адчувацца на ганку, пакуль не з'ясі апошні кавалачак мёду.

**Водар летняй навальніцы.** Гэты водар непараўнальны ні з зімовай снежнай свежасцю ні з духмянай першай звонкай навальніцай напачатку траўня. Калі ўлетку ў вёсцы, падчас дажджышча адсунеш убок накрухмаленую белую фіранку, расчыніш акно і ўдыхнеш пах дажджу - дык адчуеш непамернае багацце духмянай нотнай гамы лета: пах скошанай травы з шматлікім водарам разнатраўя, здалёк адчуеш як пахне сок зялёных ападкаў-яблыкаў, што стрэсла навальнічным ветрам, і нават водар мокрага парнага ляснога паветра будзе падбірацца да акна і дурманіць сваім мноствам разнастайных пахаў: мокрай кары дрэваў, моху і шыльніку… І ўвесь гэты карагод пахаў будзе дурманіць твае думкі і ва ўсім гэтым ты будзеш адчуваць сапраўднае і непамернае дзіцячае шчасце. І толькі напалоханая цётка Марыся, сярэдняя татава сястра, якая заўсёды пужалася навальніцы і грому, спяшаецца зачыніць акно і запаліць грамнічную свечку. А ў хату з лесу бег мокры як цуцык стары дзедаў кот. Мы ўсе яго так і клікалі: "Дзед".

**Водар малака**. Назаўсёды ў памяці застануцца вечары, калі баба Маня недзе а дзевятай гадзіне даіла карову, любімую сваю Зорку, якую яна аднойчы спрабавала прадаць, але праліўшы за тыдзень вядро слёз, вярнула яе ўсе ж такі дахаты. Ды, каб тая Зорка не бегала па хляве, калі яе даілі, баба наказвала мне сядзець на парозе хлява і чэмхаць карове галаву. І гэтая нахабнаватая істота з асалодай карысталася любоўю сваёй гаспадыні. Яна тулілася да мяне сваім велізарным мокрым носам, дыхала цёплым подыхам на мае дзіцячыя ногі, адганяла надакучлівых камароў-крывапійцаў і павольна, прыкрыўшы вочы, пажоўвала жуйку. І калі эпапея з вячэрнім даеннем заканчвалася, цёплае свежае малако першымі атрымлівалі каты, якія як па загадзе, без асабістых запрашэнняў з'яўляліся да студні, да сваёй чаропкі. Часам суседскі кот, нахабная істота, наведваўся да нашых і рабіў выгляд, быццам ён свой, спрабуючы сунуць нос да малака, але баба Маня давала яму добрага наганяю. Тут, каля студні, яна здымала з шнурка падрыхтаваны белы марлёвы цадзілак і рыхтавалася апусціць малако ў студню. Але кожны раз перад гэтым, баба брала з плоту маленькі жалезны кубачак і налівала мне цёплага з шумам пахучага малака: "Пі, дачушка, пі, - казала яна - малачко смачнае, карыснае". І нават цяпер, калі п'ю малако з крамы, я ўспамінаю непаўторна родны водар тых вясковых летніх вечароў і пах сапраўднага каровінага малака.

**Водар скошанай травы**. Ці даводзілася вам хоць раз ў жыцці адчуваць пах скошанай улетку травы. Вось наўпрост адразу як яе скасілі? Часам прачнешся на ранку ад гуку мянці, якая ў руках гаспадара спрытна спявае сваю песню працы то з правага то з левага боку уздоўж старога, зробленага дзедавымі рукамі, ляза касы. Бяжыш па вузкай сцяжынцы да студні, дзе пад белым налівам прыбіты рукамыйнік і мыльніца з мылам, якое часам, калі не ўпільнаваў, з'ядала карова, калі яна вярталася ўвечары з пашы. Халодная ад расы трава кранае і студзіць твае босыя дзіцячыя ногі - і ты прачынаешся. Ціхенька крадзешся каля хлява, абыходзіш паветку з-за якой даносіцца спрытныя: "Ужыў, ужыў, ужыў"… І бачыш постаць шыракаплечага моцнага мужнага чалавека, які часам спыняецца пагастрыць лязо, альбо наўпрост з трохлітровага слоіка выпіць бярозавага квасу, ці здымае клецістую кепку з лысай галавы, каб працерці кроплі поту з сур'ёзнага задуменнага твару. Гэта з пяці гадзін раніцы працуе тата, каб да прабуджэння тых самых кусучых пчолаў-працаўніц, пакасіць траву, водар якой разносіцца ў паветры на пачатку летняга дня.


*Мае бабуля Марыянна Мар'янаўна і дзед Вікенцій Семяёнавіч каля хаты, прыкладна 1975 год*

Я буду памятаць гэтыя раніцы сенакосу і іх водар да апошняга моманту свайго жыцця. Не ведаю, што аддала б я за тое, каб хоць аднойчы пражыць яшчэ раз тую самаю раніцу, адчуць той самы пах скошанай травы сярод вуллёў і ўбачыць яшчэ адзіны раз спіну майго таты, каб ізноў пачуць яго голас: "Чаго так рана ўстала, дачушка? Паспі крышку яшчэ". А я адказала б яму, што болей не хачу спаць, залезла б ў паветку на сена і праз вакенца бясконца б глядзела, як яго моцныя рукі кіруюць касой, што "спявае" сваю песню і пракос за пракосам сячэ пад корань пахучае мноства траў …

Памятаю словы таты, які заўсёды казаў: "Ніколі ні аб чым не шкадуй, дачушка, ніколі!"

І, пэўна, у апошнія хвіліны майго жыцця я зноў адчую водар антонаўкі, малака з-пад каровы, ліпавага мёду, летняй навальніцы і незабыўны пах скошаных татам летнім ранкам пракосаў і шкадаваць буду толькі аб адным, што не змагла пакінуць нашчадкам сваім водар татавай хаты.

*1-5 лютага 2022 г., на каранціне.*

# У Лідзе весела і з размахам правялі зіму

З даўніх часоў у беларусаў існавала традыцыя весела і з размахам выпраўляць зіму і сустракаць вясну. Вось і сёлета 26 лютага каля сцен Лідскага замка прайшло раённае свята "Провады зімы". Менавіта тут, пачынальна з дванаццаці раніцы, разгарнуліся народныя гулі, прысвечаныя правадам зімы. Свята абяцала стаць яркім і запамінальным.



Правесці зіму і пацешыцца хуткаму наступленню вясны сабраліся людзі рознага ўзросту. Працаўнікі культуры Лідчыны падрыхтавалі яркае фальклорнае свята. Вясёлыя персанажы не давалі нудзіцца гараджанам: гаспадарамі сцэны каля сцен Лідскага замка сталі артысты Палаца культуры, раённага цэнтра культуры і народнай творчасці, аддзела рамёстваў і традыцыйны культуры, а таксама госці нашага горада - ансамбль цыганскай песні і танцу "Ігрыца" з г. Менска. Яны жартавалі, спявалі, танчылі і разам з гасцямі свята вадзілі карагоды.



Жыхары Ліды з задавальненнем удзельнічалі ў розных конкурсах і крэатыўных спаборніцтвах. Кожны мог знайсці сабе занятак па душы, атрымаць зарад добрага настрою і порцыю яркіх уражанняў. Каля сцен Лідскага замка раскінуліся гульнявыя пляцоўкі, дзе гасцей свята забаўлялі працаўнікі філіялаў цэнтра культуры і народнай творчасці, спецыялісты Лідскага раённага камітэта ГА "БРСМ".

У рамках мерапрыемства адбыўся конкурс тэматычных пляцовак-фотазон "Бывай, зімачка!". З вялікай цікавасцю госці не толькі разглядалі фотазоны, якія змайстравалі раённыя і гарадскія ўстановы, але і фатаграфаваліся на іх фоне.

- Да конкурсу рыхтаваліся тры дні, - кажа загадчыца аддзела дэкаратыўна-прыкладной дзейнасці Лідскага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі Вольга Юневіч. - Пляцоўка атрымалася вельмі прыгожая.

Па словах намесніка дырэктара па навучальна-выхаваўчай працы Лідскага дзяржаўнага прафесійнага ліцэя меліярацыйнага будаўніцтва Анастасіі Хаткевіч, на выраб пляцоўкі-фотазоны ўстанове спатрэбіўся роўна тыдзень.

- Абмяркоўвалі з педагогамі і навучэнцамі, як будзе выглядаць пляцоўка. Затым вырашылі, што галоўным элементам яе стануць бліны. Прыгатавалі іх нашы навучэнцы і майстры. Лічу, што ў нас самая лепшая пляцоўка-фотазона, - сказала Анастасія Хаткевіч.

Чаго на свяце сапраўды шмат, дык гэта пачастункаў: бліноў з рознымі начыннямі, шашлыкоў, піражкоў і іншай разнастайнай выпечкі. Апроч гэтага, каб наведвальнікі маглі набыць вырабы ручной працы - традыцыйна свае шэрагі раскінуў "горад майстроў".





Скончылася свята па традыцыі спальваннем пудзіла Марэны - славянскай язычніцкай багіні зімы.

*lidanews.*

# Інтэрактыўная пляцоўка "Масленіца-блінніца вясны імянінніца!"

Беларускі народ мае векавыя традыцыі, якія з шанаваннем пранёс праз стагоддзі, захаваў і да нашых дзён. Кожнае народнае свята, кожны абрад - адметныя і непаўторныя. А Масленіца - адно з любімых у народзе святаў.











Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы прыняла ўдзел у раённым свяце "Провады зімы". Яна ладзіла інтэрактыўную пляцоўку "Масленіца-блінніца вясны імянінніца!". Разам з гаспадыняй, мядзведзем і лісой госці пляцоўкі дружна заклікалі вясну, вадзілі карагоды, з задавальненнем удзельнічалі ў займальных конкурсах і масленічных забавах: вялі жартоўныя баі, лавілі "гарачыя пельмені". Але якая ж Масленіца без бліноў? Традыцыйна гасцей чакаў смачны пачастунак - бліны з варэннем.

Бібліятэка пастаралася стварыць настрой весялосці, даставіць жыхарам і гасцям горада радасць. А па выніках раённага конкурсу тэматычных пляцовак-фотазон "Бывай, зімачка!" заняла першае месца.

***Наш кар.***

# Як вучні 11-й школы ў Лідзе зіму праводзілі

Вучні 9 "Б" класса 11 лідскай школы ў шосты школьны дзень наведалі раённае свята "Провады зімы", якое праходзіла на пляцоўцы каля Лідскага замка. Масленіца для школьнікаў - адно з любімых святаў. Штогод яны прымалі ўдзел ў масленічных забавах. І на гэты раз таксама адправіліся на свята, каб дакрануцца да гістарычнай памяці беларускага народа.

Юнакі і дзяўчаты наведалі інтэрактыўныя пляцоўкі, падрыхтаваныя для ўдзельнікаў свята ўстановамі культуры Лідскага раёна. З задавальненнем вучні прымалі ўдзел у займальных конкурсах, спаборніцтвах, гульнях, вадзілі карагоды, вялі жартоўныя баі, лавілі "гарачыя пельмені".

Дзевяцікласнікі не прайшлі міма пляцоўкі ГА БРСМ. Кожны ахвочы меў магчымасці паспрабаваць скласці Спілс-карту Рэспублікі Беларусь. А каб справа пайшла хутчэй, вучні ўсе разам узяліся за выкананне задання. За хуткі час каманда склала карту. Кожны ўдзельнік атрымаў падарункі ад арганізатараў пляцоўкі. Сумесная праца ў чарговы раз даказала школьнікам, што разам справа ладзіцца значна хутчэй.

А якая ж масленіца без бліноў, сімвала свята? Таму кожны мог пачаставацца блінамі на свой густ.

Арганізатары свята пастаралася стварыць настрой весялосці, даставіць дарослым і дзецям радасць і незабыўныя эмоцыі на цэлы каляндарны год.

Хочацца падзякаваць арганізатарам мерапрыемства за прыемныя і станоўчыя хвіліны падчас святкавання Масленіцы.

***Наталля Анашкевіч,***
*класны кіраўнік 9 "Б" класа СШ № 11 г. Ліды.*










**Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік**

***Адрас рэдакцыі:***
231282, г. Ліда, вул. Лётная, 7а.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** sejlawiczy@gmail.com, kajety@list.ru

Газета падпісана да друку 7.03.2022 г.

Фармат А-4.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

**Газета размяшчаецца на сайтах: http://nslowa.by/; http://pawet.net/; http://kamunikat.org/; http://belkiosk.by/**
*Дазваляецца самастойная раздрукоўка на паперу.*